STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
W HAJNÓWCE
ul. 3 Maja 42
17-200 Hajnówka
BIBLIOTEKA












**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

28 чэрвеня 2000 года
Цана 80 рублёў

**№ 26 (2688)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


СУСТРЭЧЫ З Карласам ШЭРМАНАМ

## *БЕЛАРУС З ПЛЕМЕНІ ЧАРУА*

### ПАСЛЯ ПРАЧЫТАННЯ ПАЭМЫ “НАКІРУНКІ СВЕТУ”

Нарадзіўся ён у 1934-м годзе ў Монта-Відэа ва Уругваі, спалучыўшы ў сабе спадчыну індзейцаў Паўднёвай Амерыкі і выхадцаў з Беларусі. Далейшае яго жыццё было падпарадкавана гэтаму спалучэнню. Магчыма, часам усё залежала ад таго, якая частка яго самога перамагала...

— Па прыродзе я — бадзяга, — гаворыць Карлас Шэрман, *віцэ-прэзідэнт беларускага Пэн-цэнтра*, перакладчык, лінгвіст-раманіст.

А ў апошняй паэме, якая выйшла ў свет у маі на чатырох мовах, сцвярджае: “Гэта сцежка да Бога ўнутры Сябе Самога”.

Яго філасофія часткова будуецца на індзейскіх уяўленнях. Ёсць сем накірункаў свету: поўнач, поўдзень, усход, захад, верх, ніз, а яшчэ — унутр сябе самога. Галоўны для яго апошні.

— Жыццё становіцца працейшым, калі ты носіш у сабе цэлы свет, і тады свет вонкавы не можа перашкодзіць чалавеку...

З дванаццаці гадоў ён пачаў займацца журналістыкай, крыху пазней атрымаў пасведчанне аргенцінскай газеты, пабываў у многіх краінах Афрыкі, Азіі, Амерыкі. Пісаў па-іспанску. Да сённяшняга часу менавіта гэта мова застаецца для яго мовай вершаў, беларуская існуе для нататкаў і эсэ.

...У 1964-м Шэрман прыехаў на Беларусь з бацькамі, жыве ў Мінску. Цяпер Карлас Рыгоравіч на маё пытанне, чаму так адбылося, цытуе кубінскага паэта Нікаласа Гільена:

“Зямля — мулатка. Мы самі ўсе мулаты, проста не ведаем гэтага”. Там, дзе ты знаходзішся, дзе растуць твае дзеці, унукі — гэта месца чалавек павінен лічыць сваім і абараняць яго...

Вывучыўшы беларускую мову, Карлас Шэрман пачаў перакладаць з іспанскай творы Лоркі, Маркеса, Неруды. Потым на мове яго радзімы з'явіліся вершы і проза беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Многія станавіліся яго сябрамі...

— Калі думаю пра беларусаў, я часта згадваю індзейцаў Паўднёвай Амерыкі, якіх доўга вывучаў. І нават кніга пра іх пісалася з думай пра Беларусь. Калі браць вопыт індзейцаў, то яны сутыкнуліся з прышлымі людзьмі, што адкрылі Амерыку, сярод якіх было мала прыстойных. Частка плямёнаў скарылася і пачала маліцца новым Багам, гаварыць словы кахання на чужой мове, адраклася ад спадчыны, а частка — вырашыла адстойваць самастойнасць.

Беларусы павінны разумець, што ёсць толькі два варыянты паводзін — ціхмянай памяркоўнасці і ўсведамлення сябе народам...

У пацвярджэнне сваіх слоў Карлас Шэрман спаслаўся на Гарсія Лорку, які лічыў сябе прыхільнікам жыцця і заклікаў прымаць бок тых, хто больш пакутуе.

...Побач з ім жывуць паэтычныя вобразы амерыканскіх індзейцаў. І, спрачаючыся сам з сабой, Карлас Шэрман сцвярджае, што святло з'явілася не тады, калі адзін кавалак дрэва церлі аб другі. Індзейскія дзеці збіралі на лугах светлякоў і неслі індзейскім жанчынам, каб тыя паклалі ў плеценыя з празрыстых траваў клеткі! Сотні жывых “ліхтарыкаў” разам нараджалі святло...

Такія паралелі з'яўляюцца пасля паэмы Карласа Шэрмана “Накірункі свету”.

— І зноў я думаю пра Беларусь. Мы сёння так лёгка адмаўляемся ад роднай мовы, ад культуры, ад каранёў. Нібыта сышлі з душы нейкія пазыўныя, нешта надта важнае, што набліжае людзей адзін да аднаго...

**Вітаўт ЛУКАШЭВІЧ.**

ВЕКАПОМНАЕ

Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў-вызваліцеляў Бабруйска пабудаваны каля могілак на вуліцы Мінскай, дзе пахавана шмат савецкіх салдат і афіцэраў, якія палі пры вызваленні горада ў 1944 годзе. Цяпер астанкі байцоў сабраны ў брацкую магілу, над якой узвышаецца стэла са Святым Георгіем Перамаганосцам.

**БелТА.**

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ МІРУ ВАЧЫМА ДЗІЦЯЦІ

● **Альберт МІЦЕР.**

Невялікі гарадок у Заходняй Беларусі. Аднойчы майскай ноччу, амаль на досвітку, я прачнуўся ад гучных галасоў, ляпання дзвярэй. Чулася аўтаматная стральба, потым з боку аэрадрома ўдарылі гарматы. “Госпадзі, няўжо зноў?” — прастагнала маці. Выйшлі на двор — там ужо суседзі, усе ўстрывожаныя.

І раптам, быццам каб рассеяць сумненні, пачуўся далёкі перазвон. Спачатку слабы, ён мацнеў і пашыраўся, прабіваючыся скрозь страляніну: званілі ўсе цэрквы і касцёлы гарадка, упершыню званілі разам. Такі звон чуўся толькі па вялікіх святах, і ўсе адразу зразумелі, што гэта да нас прыйшло самае вялікае свята — мір.

Людзі абдымаліся, смяяліся і плакалі — ад шчасця і ад гора. Білася ў істэрыцы суседка, якая згубіла ў вайну мужыка, сына і старога бацьку. Памятаю скамянелы твар маладога хлопца-інваліда без ног, на калясцы з ролікавымі коламі: па яго твары цяклі слёзы, якіх ён не

— Заканчэнне на 2-й стар. —


АБ'ЯВЫ

## “ГОЛАС РАДЗІМЫ”

КУПОН ДЛЯ БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБ'ЯВЫ

*Запоўніце і вышліце на адрас рэдакцыі:* **220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**Абавязкова назавіце ваша прозвішча, месца пражывання.**

Куплю 2-пакаёвую кватэру ў Мінску.
**Тэлефон у Нью-Йорку**
**(718) 672-6425 (Тая).**

**Хачу наладзіць кантакты з турыстычнымі фірмамі.**
*Распрацаваны цікавыя маршруты па Беларусі.*
Тэлефон у Мінску:
(375-17) 226-19-36.


СПОРТ

Фота БелТА.

Беларускія майстры настольнага тэніса на міжнародным Еўрапейскім турніры ў Грэцыі атрымалі яшчэ тры алімпійскія ліцэнзіі на ўдзел у Алімпійскіх гульнях у Сіднэі. Да гэтага ліцэнзія была толькі ў выдатнага беларускага тэнісіста Уладзіміра Самсонава. Паспяховае выступленне сясцёр Веранікі і Вікторыі ПАЎЛОВІЧ, Таццяны КАСТРАМІНОЙ і Яўгена ШЧАЦІНІНА дазволіць ім выступіць на Алімпіядзе ў Сіднэі.

**АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ**



*На пачатку лета прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір ЯРМОШЫН сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джавані ЧАРУЦІ.*
*НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.* **БелТА**

# ЦЕПЛЫНЯ ІТАЛЬЯНСКАГА ДОМА

***Прыйшло лета. І зноў актуальнай стала тэма аздараўлення нашых дзяцей. Італія — адна з краін, якая штогод прымае ў сябе тысячы маленькіх гамяльчан, нараўлянцаў, мазыран... Вось чаму карэспандэнт "Советской Белоруссии" Ніна РАМАНАВА звярнулася да Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла гэтай дзяржавы пана Джавані ЧАРУЦІ з просьбай расказаць пра перспектывы аздараўлення і адпачынку ў Італіі па лініі гуманітарных арганізацый.***

**— Пан пасол, аздараўленне беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, у Італіі стала ўжо свайго роду гуманітарнай традыцыяй. Ці будзе гэта традыцыя прадоўжана?**

— Перш за ўсё я хацеў бы ўдакладніць адну важную дэталь. Аздараўленне беларускіх дзяцей у Італіі — цалкам прыватная ініцыятыва. Цэнтральнага дзяржаўнага органа, што курыруе гэтую ініцыятыву, не існуе. Ёсць асобныя італьянскія сем'і, якія выказалі жаданне прыняць у сябе беларускіх дзяцей. Такіх сем'яў становіцца ўсё больш, падобная ініцыятыва атрымала вялікае распаўсюджанне.

Італьянская дзяржава, дарэчы, здзяйсняе кантрольныя функцыі за тым, каб дзеці, якія прыязджаюць у Італію, не папалі ў непрадбачанае становішча. Размова ідзе пра захаванне ўсіх юрыдычных аспектаў, гарантуючых іх правы.

Для гэтага створана асобая структура — камітэт па захаванню правоў непаўналетніх. Пасольства мае права выдаваць візы непаўналетнім грамадзянам Беларусі толькі з дазволу памянёнага камітэта. Я павінен сказаць, што ўся гэта сістэма да гэтай пары спрацоўвала эфектыўна.

Што тычыцца далейшых перспектыў. Як я ведаю, цікавасць італьянскіх сем'яў да чарнобыльскіх дзяцей і жаданне ім дапамагчы не слабеюць. У мінулым годзе, напрыклад, на аздараўленне ў Італію прыязджала каля 35 тысяч чалавек. Думаем, што ў гэтым сезоне будзе не менш.

**— Некаторыя песімісты як з беларускага, так і з італьянскага боку скептычна расцэньваюць карыснасць замежнага аздараўлення. Якая ваша думка на гэты конт?**

— Я зыходжу з таго, што станоўчага значна больш, чым адмоўнага і аздараўленне дзяцей у Італіі прыносіць ім толькі карысць.

І ўсё ж гэтага недастаткова. Калі я не памыляюся, выяўлена недзе паўмільёна дзяцей, якія маюць праблемы са здароўем з-за наступстваў чарнобыльскай аварыі. З іх толькі малая частка выязджае ў Італію.

Канешне, усіх вывезці немагчыма. Таму розныя асацыяцыі імкнуцца шукаць формы і магчымасці павелічэння гуманітарнай дапамогі тут, у Беларусі.

**— Немалаважныя пры гэтым і сур'ёзныя навуковыя даследаванні пра тое, што карысна чарнобыльскім дзецям. Ці вядуцца яны ў Італіі?**

— Што датычыцца чыста медыцынскіх аспектаў, то, наколькі мне вядома, пэўныя даследаванні вядуцца ў гэтай галіне. Напрыклад, універсітэт у Пізе займаўся праблемай вылечвання раку шчытападобнай залозы і працягвае працаваць па данай тэматыцы і зараз. Але павінен заўважыць, што дзеці, якія выязджаюць на аздараўленне ў Італію, не праходзяць ніякага абследавання. Беларускі бок выступіў супраць медыцынскіх аналізаў, было нават дасягнута спецыяльнае пагадненне з гэтай нагоды.

Сёння таксама вядуцца некаторыя сумесныя даследаванні вучонымі дзвюх краін. Напрыклад: нядаўна ў Мінск прыязджала дэлегацыя універсітэта з Вероны па запрашэнню партнёрскай арганізацыі з Беларусі. І яны намецілі пэўныя праекты.

У заключэнне хачу сказаць, што цікавасць розных краін да таго, каб дапамагчы Беларусі, узрастае. І вельмі важна, каб беларускі ўрад стварыў усе ўмовы для хуткай і эфектыўнай дастаўкі такой дапамогі.

**ВЕКАПОМНАЕ**

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ МІРУ
## ВАЧЫМА ДЗІЦЯЦІ

Пачатак на 1-й стар.

заўважаў. Маленькая дзяўчынка гадоў чатырох-пяці, круглая сірата, падыходзіла па чарзе да дарослых, тузала за рукаў і пытала: "А цяпер мой тата вернецца?" Вельмі старая жанчына, глухая і набожная, не разумела, што адбываецца, але бачыла, што нешта незвычайнае і радаснае, і таму пачала асяняць усіх масіўнай іконай, паўтараючы: "Хрыстос уваскрэс! Хрыстос уваскрэс!" А малады чырванашчокі салдат з дураслівым крыкам: "Хрыстос уваскрэс!" лез цалавацца да дзяўчат. Шавец яўрэй Янкель, цудам перажыўшы ў падвале свайго суседа акупацыю і знішчэнне гета, выкрыкваў у бок Гітлера праклёны: "Каб у яго павыпадалі ўсе зубы, але застаўся адзін для вечнага зубнога болю!" Затым Янкель урачыста абвясціў, што ў гонар перамогі і свайго выратавання ён да канца свайго жыцця ў гэты дзень будзе бясплатна рамантаваць усім суседзям абутак. Пасля гэтага душэўнага парыву Янкеля цётка Цыцоха хуценька прывалакла яму цэлы мяшок старога абутку, што выклікала паміж імі сварку, якая завяршылася міралюбіва.

Гарадок кіпеў. Мясцовае насельніцтва асабліва востра перажывала гэты дзень: дзве сусветныя вайны з разрывам усяго ў 25 гадоў вогненным смерчам пранесліся праз шматпакутную зямлю Беларусі, дзе ў гэтую вайну, самую жорсткую, загінуў кожны чацвёрты. Шматгадовае напружанне спала, і эйфарыя ахапіла ўсіх. Усхваляваная руска-польска-беларуская мова. Гукі гармонікаў, патэфонаў, песні. Пусціліся ў скокі салдаты. Смех і плач. Высокая трагедыя, смутак па тых, хто не дажыў да гэтага дня, перамяшаліся з буйным вяселлем. Гэта была сапраўды вясна народаў, вялікі дзень усеагульнай еднасці, радасці і надзей...

Тоўсты пажарнік цяжка бегаў з вялізнай тоўстай трубой, надзетай праз плячо, спрабуючы сабраць аркестр пажарнікаў-добраахвотнікаў, якія былі ўжо "пад мухай". Але пасля аблівання халоднай вадой каля калодзежа яны пастроіліся — разануў па сэрцах марш "Развітанне славянкі". Наш гарадок развітваўся з ліхалеццем вайны.

Натоўп людзей стыхійна рушыўся да цэнтра гарадка. Я пабег у школу, там нас "арганізавалі", і адтуль мы пайшлі калонай на мітынг. Быў ясны вясновы дзень, у той год ужо распускалася чаромха, яе густы пах плаваў над гарадком. У касцёле, міма якога мы праходзілі, былі адчынены вокны і дзверы, у прыцемку мігацелі свечкі, спяваў хор, магутна гучаў арган, мноства людзей слухалі месу і ў двары. "Несвядомая частка насельніцтва" (як сказала настаўніца), сярод якой я ўбачыў сваю маці, дзякавала Богу за пасланне міру. "Ад голаду, мору і вайны — выратуй нас, Госпадзі!" — несліся словы малітвы на польскай мове. Каля царквы — хрэсны ход, грамавыя воклічы дыякана пра "перамогу расійскага воінства".

Мясцовы фатограф Ян выцягваў рукі да прахожых, у першую чаргу да афіцэраў, як найбольш плацежаздольных: "Панове-таварышы, фатаграфуйцеся для гісторыі! Не шкадуйце грошай, грошы — вада. Для гісторыі!". І "панове-таварышы" не застаўлялі сябе чакаць, ахвотна прымалі бравыя позы перад апаратам на трыножку, які пан Ян выцягнуў на вуліцу, а потым разлічваліся хто чым: хто грашыма, а лётчыкі — жудасным дэфіцытам таго часу — шакаладам. Ён ведаў, што гаварыў, гэты стары пан Ян, і я не раз потым шкадаваў, што не аддаў усе свае хлапчуковыя "багацці" за адзін здымак у той дзень. Мне было адзінаццаць гадоў, і я толькі пачаў вывучаць гісторыю, думаючы, што яна "пра даўніну"...

Потым праз станцыю пайшлі эшалоны пераможцаў, упрыгожаныя бярозавымі галінкамі. Мы, дзеці, бегалі глядзець, махалі рукамі, салдаты адказвалі, крычалі: "Паедзем з намі!", кідалі падарункі, якія мы называлі "трафеямі". І толькі пазней я зразумеў, што гэта не салдаты з меднымі ад загару тварамі і ў гімнасцёрках, якія выгарэлі дабяла, — гэта сама Гісторыя неслася ў авеяных дымам саставах, якія грукаталі па рэйках.

*Новасібірск, Расія.*

**РАБІ, ЯК Я**



● **Аляксей МАЦЮШКОЎ.**

У Маладзечанскім раёне каля станцыі Баяры адбыўся пешаходны марафон "100 кіламетраў за 24 гадзіны". У ім удзельнічала больш за 200 прапагандыстаў здаровага ладу жыцця. Марафон праходзіў у некалькі этапаў. Шлях быў нялёгкі: праз густыя лясы, палі, яры.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі марафона ўдакладняюць маршрут; у дарозе.



**ВІНШУЕМ!**

## ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ — ПАСОЛЬСТВУ

Беларускае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Румыніі атрымала ганаровы дыплом за ўдзел у 17-й міжнароднай выставе ТІБКО-2000.

Гэта адна з самых прэстыжных выстаў праходзіла ў Бухарэсце з 31 мая па 5 чэрвеня. Сёлета ў ёй удзельнічалі больш як 600 фірм з 32 краін.

Выстава насіла універсальны характар. Інтарэсы беларускага боку на ёй прадстаўляла беларускае пасольства. Удзел у выставе з'яўляецца адной з многіх актыўных форм прасоўвання беларускіх тавараў на румынскі рынак, наладжвання прамых сувязей паміж спажыўцамі і вытворцамі. Гэта дае свой плён. За першы квартал бягучага года назіраецца рост тавараабароту, павялічыўся беларускі экспарт у Румынію, захоўваецца значнае сальда ў гандлі.

На беларускім стэндзе была прадстаўлена рэкламная прадукцыя каля 40 беларускіх прадпрыемстваў: мінскія тэлевізары "Гарызонт", узоры вырабаў Слонімскай камвольнапрадзільнай фабрыкі, сувенірнай прадукцыі, відэафільмы пра Беларусь.

Выстава пацвердзіла, што ў Румыніі могуць знайсці свайго спажыўца беларускія халадзільнікі, тэлевізары, трактары, аўтамабілі, хімічная прадукцыя, прадукцыя станкабудавання, тавары народнага спажывання.

**АБ'ЯВЫ — АБ'ЯВЫ — АБ'ЯВЫ**

*ШУКАЮ РАБОТУ*

Хачу праз вашу газету звярнуцца да землякоў, якія жывуць у далёкім замежжы. Разумею, што "Голас Радзімы" — у першую чаргу газета па культурных сувязях, аднак яна напэўна і адзіная, якая выходзіць за межы Беларусі. Справа ў тым, што на працягу ўжо доўгага часу я шукаю працу за мяжой. Звяртаўся ў шматлікія пасрэдніцкія фірмы, аднак гэта не дало выніку. У адных патрабуюць заплаціць доларамі за пошук магчымай працы, у іншых увогуле прапануюць падпольную працу на кабальных умовах. Магчыма, мая бяда ў тым, што ў мяне няма будаўнічай спецыяльнасці, а лгаць я не хачу. Я вопытны токар-універсал, валодаю сумежнымі спецыяльнасцямі. Жыву і працую майстрам-брыгадзірам у пасёлку Чысць Маладзечанскага раёна. Заробкі ў нас невялікія: 30—40 долараў у месяц, а жыць і гадаваць дзяцей трэба. У мяне ёсць жонка і два сыны-блізняты. Мне 34 гады, маю сярэднюю адукацыю, добра разумею польскую мову, сам родам з сельскай мясцовасці. На пошукі працы падштурхоўвае тое, што хочацца стварыць больш-менш добрыя ўмовы для жыцця сям'і. Дык магчыма хтосьці з суайчыннікаў дапамог бы ўладкавацца на працу за мяжой на які год, а магчыма і больш. Буду вельмі ўдзячны, калі хто адгукнецца на маю просьбу.

Мой тэлефон у Маладзечанскім раёне: 99-7-05.



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ВЯРТАННЕ ДА ПРАШЧУРАЎ

## *У НЯСВІЖЫ АДБЫЛОСЯ ПАХАВАННЕ Антонія РАДЗІВІЛА*

● **Яўген ЛЕЦКА.**

Нядаўна ў Нясвіжы адбылася неардынарная для Беларусі падзея: упершыню пасля таго, як у Заходняй Беларусі ў 1939 годзе ўсталявалася камуністычная (савецкая) улада, у Нясвіжы сабраліся нашчадкі аднаго з наймагутных магнацкіх родаў Еўропы — князёў Радзівілаў. Сабраліся не проста так, а з нагоды пахавання ў сямейным магільным склепе праху князя Антонія, які памёр летась у Лондане яшчэ ў нестарым узросце ад невылечнай хваробы — раку. Няхай сабе і пасля смерці, але адзін з Радзівілаў ужо ў наш час назаўсёды "прапісаўся" там, дзе пачынаўся і канчаўся шлях Радзівілаў, слава пра якіх ішла калісь па свеце.

Зразумела, што пахаванне такой асобы і ў такім месцы — справа няпростая. Залагоджванню ўсіх фармальна-пратакольных момантаў актыўна спрыяў колішні амбасадар Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзімір Шчасны, дыпламатычны тэрмін службы якога ў гэтай краіне нядаўна скончыўся, і ён ужо заступіў на адказную працу ў Мінску ў Міністэрстве замежных спраў. І хоць абсяг ягонай цяперашняй дзейнасці не звязаны з Англіяй, аднак (што зразумела) менавіта ён і быў адказнай ад улады асобай падчас правядзення гэтай урачыста-жалобнай цырымоніі.

Сваяцтва Радзівілаў прыляцела на сваім самалёце на лётнішча "Мінск-2" і адразу ж, перасеўшы ў легкавыя машыны, рушыла ў сваю колішнюю некаранаваную сталіцу. Прысутнымі на жалобе былі: удава Антонія Радзівіла Ружана, а таксама два яе сыны з нявесткамі. *З іншых найперш* варта назваць блізкага сваяка, графа Цеханавецкага, вядомага яшчэ і як навукоўца, адна з кніг якога па-беларуску некалькі гадоў таму была выдадзена ў Мінску. У першы ж дзень спадарыня Ружана перадала ў дарунак Беларусі сямейную рэліквію — унікальную карту нашай краіны, выробленую напрыканцы XVI стагоддзя паводле волі князя Радзівіла Сіроткі.

Нельга сказаць, што апошнім часам не назіраецца абуджэння ўвагі творцаў і навукоўцаў да роду Радзівілаў. З апошніх цікавых фактаў назаву п'есу Аляксея Дударава "Чорная панна Нясвіжа". А некалькімі гадамі раней з'явілася драматычная паэма Раісы Баравіковай "Барбара Радзівіл", якая дасюль з нязменным поспехам ідзе ў тэатры "Вольная сцэна".

Аднак гэта, мяркую, толькі пачатак, бо гісторыя роду Радзівілаў — гэта і гісторыя Беларусі, увасобленая ў надзвычай каларытных і адметных характарах. А таму і пра ўжо згаданага Радзівіла Сіротку, і пра Радзівіла Чорнага, і пра Радзівіла Рыбаньку, і пра княгіню Магдалену Радзівіл, якая на пачатку нашага стагоддзя фандавала беларускі нацыянальны рух, у прыватнасці, давала грошы на выданне "Нашай Нівы" — можна майстрам пяра пісаць цікавыя, нават займальныя творы, бо жыццё гэтых людзей было напоўнена вялікім гістарычным сэнсам, драмамі, трагедыямі, а часам і авантурамі. Свае слова, спадзяюся, яшчэ скажуць і гісторыкі-навукоўцы. Бо хіба ж, як і пра згаданых асобаў, не магла б стаць бестселерам манаграфія ўвогуле пра род Радзівілаў, хіба на гэтым удзячным для аналізу і асэнсавання матырыяле не могуць быць напісаны і абаронены кандыдацкія і доктарскія дысертацыі?!

Калі ж казаць пра Радзівілаў у днях сённяшніх, то мы амаль нічога не ведаем — колькі іх, дзе яны жывуць і кім працуюць...

Згаданыя моманты паспрыялі таму, што 8 чэрвеня ў Нясвіжы сабралася вельмі шмат і навакольнага, і прыезджага люду — прасторнае памяшканне Фарнага касцёла, дзе адбылося адпяванне, было запоўнена да адказу.

Служба, за выключэннем некалькіх слоў па-беларуску, вялася на лацінскай і польскай мовах. Той, хто бываў у Нясвіжскім касцёле пару гадоў назад, калі правіў ксёндз Генрык Акалатовіч, ведае, што беларускасць там была ў вялікай пашане. Але на месца яго прыслалі ксяндза з Латвіі, які беларускай мовай зусім не паслугоўваецца. А шкада. Бо Нясвіж і ягоны Фарны касцёл — гэта ключавыя кропкі духоўнай і турыстычнай Беларусі, адна з нашых візітна-рэпрэзентатыўных картак. І хіба ж мы не зацікаўлены ў тым, каб тыя ж Радзівілы зразумелі і адчулі, на зямлі якога народа іх продкі здабылі сабе неўміручую славу?!

Каля трох гадзін доўжылася жалобная імша, пасля якой прах Антонія быў перанесены ў крыпту Радзівілаў пад касцёльнымі скляпеннямі.

Урачыстасць завяршылася канцэртам-рэквіемам славутага ансамбля "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Гучала высокая ўрачыста-жалобная класічная музыка, у тым ліку і створаная некалькімі стагоддзямі назад продкамі Антонія, які спачыў у Бозе.

Ягоныя прах і душа вярнуліся на спрадвечную Бацькаўшчыну, да сваіх славутых прашчураў. Хочацца спадзявацца, што Радзівілы будуць прыязджаць сюды не толькі ў часы жалобнай нагоды, што думка пра Беларусь, пра іх радавое гняздо Нясвіж пакліча іх на добрыя справы ў імя зямлі, якая нараджала, узгадоўвала і вяла да славы гэты знакаміты род.

**Фота БелТА, IREX/PRESS.**



*Фарны касцёл, дзе знаходзіцца радавая пахавальня Радзівілаў.*



*Павел РАДЗІВІЛ і Ружана РАДЗІВІЛ, сын і жонка Антонія Радзівіла, нясуць урну з прахам памерлага.*



*Нашчадак Антонія, Павел РАДЗІВІЛ, цалуе крыж перад пачаткам жалобнай імшы.*



*Хвіліны смутку.*



*У час цырымоніі.*

**P. S. Прадстаўнікі роду Радзівілаў жывуць у розных краінах свету — Польшчы, Вялікабрытаніі, Паўночнай Амерыцы, Канадзе. Увогуле род гэты зараз шматлікі. І адно з яго адгалінаванняў прадстаўляюць Марцін і Пол — сыны Антонія.**

**На пытанне журналістаў, якім чалавекам быў іх бацька, Марцін Радзівіл адказаў:**

**— Ён быў чалавекам з вялікім сэрцам і адкрыты для святаў. Яго любілі людзі, і пасля смерці ён быў ушанаваны імі.**

**— Ці можаце вы стаць ардынатам Нясвіжа?**

**— Бацька не быў старэйшым сынам, але ў тых, хто цяпер можа лічыцца ардынатам, няма сыноў. Таму зараз гэтая традыцыя працягваецца па нашай лініі.**

**— Ваш бацька з'яўляўся старшынёй грамадскага фонду "Нясвіж". Што для вас азначае гэты горад?**

**— Нясвіж — месца маіх продкаў. Я прыехаў сюды другі раз, але цяпер тут пахаваны мой бацька, і мы будзем прыязджаць часцей.**

SPOŁECZNY KOMITET BUDOWY MUZEUM I OŚRODKA KULTURY BIAŁORUSKIEJ 17-200 Hajnówka ul. 3 Maja 42, tel. 30-16

*14 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння спевака Міхала Забэйды-Суміцкага. Мне пашчасціла быць яго госцем у Празе, слухаць жывы голас і даўнія запісы, перапісваць яго вялізны архіў. Мы блукалі па Празе, сустракаючы ўдзячных вучняў славутага педагога. Над Влтавай лунала рэха Скарыны, пад Рэгравым садам чулі мы крокі Купалы.*

*Дзядзька Міхал смуткаваў па радзіме, перадаваў паклоны сваім знаёмцам, даўнім сябрам. На развітанне, а гэта было ў 1973 годзе, падараваў мне на памяць аб нашым супрацоўніцтве чэшскі погар-келіх. Пасля атрымліваў ад яго кружэлкі і паштовыя цыдулькі... Але келіх Забэйды будзе свяціцца мне да канца дзён...*

*Ва ўдзячнасць за звонка-светлы дарунак і напісаны гэты верш. Бо сам Забэйда-Суміцкі незабыўны. Яго песенная душа, кружляючы па розных землях, гасцюючы сярод розных народаў, атуляе сваёю існасцю Беларусь. Голас нашага славутага земляка яшчэ будзе служыць і Радзіме.*

*Сяргей ПАНІЗЬНІК.*

## КЕЛІХ ЗАБЭЙДЫ

Сыходзілі дні
з маладога папасу.
Крутымі шляхамі
планіда вяла.
І маміна кварта
сіроцкага квасу
паўнюткай ніколі
ў руках не была.

У вырай узнёсся
ўзнадзеены голас,
ў сумоўе народаў
як свой уляцеў, —
каб родную песню
выводзіць у колас...
І срэбраны келіх
прыняць не хацеў.

Высокая слава
скубла адзіноту.
Спазнаў Салавей:
дзе бяда, дзе віна...
Не чула радзіма
апошнюю ноту.
Быў срэбраны келіх
дапіты да дна.

Ад нас не затулена
пражскае сонца, —
на келіхі-вежы
паважна глядзіць.
А золатам промніка
ў срэбнае донца
пастукае памяць —
імя загудзіць.

Яшчэ запяе нам
Забэйда-Суміцкі.
Над матчынай квартай
абсыпецца гром.
Прыціхне раса
ля самотнай сунічкі,
напоўніцца келіх
жывым серабром.



*Гэты келіх Міхал Забэйда-Суміцкі падараваў С. Панізьніку.*

## ПРЫВІТАННЕ ЎСІМ, ХТО ЛЮБІЦЬ НАШУ ПЕСЬНЮ...

**Міхась Забэйда!.. Беларускі салавей!.. Мне ніколі не даводзілася з ім сустракацца, гутарыць, слухаць яго жывы спеў. Але пра яго я шмат чуў, чытаў і шмат думаў. Яшчэ юнаком разважаў: "Чаму ж гэты такі таленавіты чалавек, Чалавек ад Бога, з Божым дарам, які прагне Беларусі, не можа жыць на Беларусі?" Тады ж, разважаючы пра гістарычны лёс Беларусі і яе слаўных сыноў, я адважыўся патрывожыць Беларускага Салаўя ў Празе, напісаў яму першы свой ліст з запытаннямі пра славуты Купалаў верш "А хто там ідзе?". Ліст той мой ацалеў. Ён зараз у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. У ім я пісаў:**

*"Беларускаму Салаўю Міхасю Забэйду-Суміцкаму*

Шаноўны Маэстра!

Учора лістаносец прынёс беластоцкую "Ніву", і з яе мы даведаліся, як Вы пачуваеце сябе зараз. Што ж, мы рады, што Вы пры добрым здароўі, здатныя да працы, да песні. Не ведаю, як Вы сустрэнеце мой ліст, але мяне цікавіць вось што. Вы шмат спявалі беларускіх песняў. А ці даводзілася Вам хоць калі спяваць песню на словы Янкі Купалы "А хто там ідзе?" А калі не самому, то ці даводзілася хоць чуць яе ў іншым выкананні? Калі гэта было і дзе? Якія думкі і пачуцці абуджаў і абуджае ў Вашай душы гэты твор? Калі Вы яго ўпершыню пачулі і пры якіх абставінах? У чыёй музычнай інтэрпрэтацыі? Карацей, пра любыя звесткі пра Купалаў шэдэўр буду Вам моцна ўдзячны.

І яшчэ. Ці ёсць у Вашым рэпертуары песні на Багушэвічавы словы? Калі Вы ўпершыню сустракаліся з яго паэзіяй?

Выбачайце, што турбую Вас гэтымі пытаннямі. Але яны для мяне жыццёва важныя, і я буду з нецярплівасцю чакаць адказу. Безумоўна, мне хацелася распытацца ў Вас і яшчэ пра сёетое, але на першы раз і гэтага досыць.

З найлепшымі зычэннямі

**Уладзімір Содаль.**
*12 жніўня 1976 г. Мінск".*

Разам з пісьмом я даслаў шаноўнаму Маэстра і тэкст Купалавага верша, і ноты да яго, выдадзеныя "Нашай Нівою".

Праз некаторы час я атрымаў ад слыннага спевака дарагі для мяне і Беларусі ліст. У ім шаноўны Маэстра 29 жніўня 1976 года пісаў з Прагі:

"Шаноўны Уладзімір Ільіч!

Ад таго часу, як Вы чыталі ў "Нашай Ніве" весткі аба мне, здароўе маё моцна згоршылася. І нядзіва. Сіроцкае, без бацькі, маленства, дзве вайны, фашысцкая турма... А жыву семдзесят сем год! Кожны дзень можа быць апошнім: перастане працаваць сэрца.

На цудоўны верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" песьні не спатыкаў. Верш, як і вершы і іншых беларускіх паэтаў, пачуў, калі вярнуўся на Радзіму ў 1935 годзе. Найхутчэй гэта было ў Вільні (цяпер Вільнюс), дзе выступіў з канцэртам, на якім сьпяваў беларускія народныя і прафесійныя песьні. Беларускіх песьняў сьпяваў многа. Ці былі там песьні на словы Ф. Багушэвіча, на жаль, не памятаю.

Прабачце, што пішу мала, моцна нездаровіцца. Калі захочаце ведаць пра мяне больш, прачытайце мае кароткія "ўспаміны" — "Белавежа" № 1, літаратурны альманах за 1965 г. Беласток, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага Таварыства ў Польшчы (ёсьць у бібліятэцы ў Мінску).

Дзякую за зацікаўленне маёю сьціплаю працай.

Будзьце здаровы і шчаслівы. Прывітаньне ўсім, хто любіць нашу песьню.

*Шчыра* **М. Забэйда.**

**P. S.** Прыкладаю праграму аднаго з маіх канцэртаў. Мо будзе Вас цікавіць?"

Мяне грэў тады і грэе цяпер гэты Забэйдаў ліст. І не толькі сваім зместам, але і сваёй каліграфіяй. Кожная літарка выразная, па-мастацку кругленькая, лагодная. Радок шырокі, як нотны.

Пасля я яшчэ меў паштоўку ад Маэстра. У ёй таксама шчырасць, дабрыня, даверлівасць:

"Паважаны Уладзімір Ільіч!

Шчыра дзякую за віншаваньні з Кастрычніцкім сьвятам. І я Вам зычу ўсяго добрага. На жаль, споўніць Ваша жаданьне не магу. Сэрца ў такім стане, што кожны дзень можа быць апошнім ("Уходзілі Сіўку крутыя горкі"), а сьпяваць, , нават "пахатняму", без сэрца нельга.

У музеі Янкі Купалы ёсьць мая грампласцінка, дзе насьпяваны чатыры песьні на Купалавы вершы.

Калі папраўлюся, напішу вам. Пакуль бывайце здаровы і шчаслівы!

*З прывітаннем*
**М. Забэйда."**

Абяцаў Маэстра напісаць — і не напісаў. Шкадую, што гэтымі двума скупымі лістамі абмежавалася наша ліставанне з слынным Маэстра.

Апошнюю паштоўку да мяне Міхась Забэйда датаваў семнаццатым лістапада 1976 года. Яшчэ пяць гадкоў міне з таго часу, як ён пойдзе ў Вечнасць. Прадчуванні ягоныя былі недарэмныя.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

СПАДЧЫНА

# ПРА ДРУЦК І КНЯСТВЫ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

● **Георгій ШТЫХАЎ,** *доктар гістарычных навук.*

Аб'яднанне крывічоў у канцы І тысячагоддзя н. э. распалася на тры групы — полацкую, смаленскую, пскоўскую (паводле назваў іх галоўных гарадоў). Смаленскія крывічы вельмі блізкія да полацкіх па мове і культуры, таму ў этнаграфічных адносінах звычайна разглядаецца полацка-смаленская група плямён. У VIII—IX стагоддзях у полацкіх крывічоў узніклі ўмацаваныя паселішчы, на аснове якіх потым сфарміраваліся гарады.

Племянное княжанне крывічоў-палачан паслужыла гістарычным ядром Полацкага княства-дзяржавы. Полацкае княства ўзнікла ў сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны. У X—XI стагоддзях яно займала ўсю паўночную Беларусь і межавала на поўначы з Наўгародскай зямлёй, на ўсходзе — са Смаленскім княствам, на поўдні — з Тураўскім, на захадзе — з землямі лета-літоўскіх плямён. Уладанні Полацка распасціраліся па ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны да Рыжскага заліва, дзе былі гарады Герцыке і Кукенойс. Полацкая зямля — адно з найбуйнейшых княстваў Усходняй Еўропы ранняга сярэднявечча, па памерах прыблізна роўнае Баварскаму герцагству на тэрыторыі Германіі, Партугальскаму каралеўству на Пірынейскім паўвостраве.

### УЗНІКНЕННЕ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ ГАРАДОЎ

Узнікненне гарадоў было працяглым і складаным працэсам. Трэба адзначыць, што славяне ў заснаванні гарадоў значна апярэджвалі балтаў. Так, у літоўцаў сапраўдныя гарады пачынаюць узнікаць у канцы XIII стагоддзя. У крывічоў жа ў IX стагоддзі з'яўляюцца зародкі найбольш старажытных гарадоў, якія першапачаткова ўзнікалі як абгароджаныя сценамі паселішчы. Горад IX—X стагоддзяў адрозніваўся ад вёскі, галоўным чынам, сваімі ўмацаваннямі і тым, што ён быў адміністрацыйным цэнтрам дзяржаўнай улады. З'яўленне гарадоў і ўзнікненне дзяржаўнасці адбывалася на Беларусі адначасова. Таму можна гаварыць пра гарады-дзяржавы ранняга сярэднявечча.

*Ва ўсходніх славян існавалі гістарычныя перадумовы для ўзнікнення гарадскіх паселішчаў: павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі і паляпшэнне тэхнікі апрацоўкі зямлі, аддзяленне рамёстваў ад сельскай гаспадаркі. Тэрыторыя Беларусі не з'яўлялася выключэннем з правіла паўсюднага росту ўраджайнасці збожжавых у IX—XIII стагоддзях, што назіралася ў Еўропе. Узровень вытворчасці збожжа вызначаў і самую магчымасць развіцця рамёстваў і гандлю. Доказам прагрэсу земляробства на тэрыторыі Беларусі служаць знаходкі азімага жыта, напрыклад, на гарадзішчы каля вёскі Свіла ў пласце IX стагоддзя. Другім сведчаннем гэтага з'яўляюцца жалезныя наканечнікі на ворных прыладах X—XI стагоддзяў, якія тут знаходзяць, у тым ліку і ў Друцку.*

Гандаль і рамёствы ўсё больш канцэнтраваліся ў населеных пунктах са зручным геаграфічным размяшчэннем. Горад не мог быць ізаляваным ад свайго наваколля, яго гаспадарчая роля адчувалася ў межах адпаведнай акругі. Ужо ранняму перыяду гісторыі земляў усходняй Еўропы было характэрна ўсталяванне гандлёвых сувязей з іншымі краінамі. Гэта быў час росквіту "шляху з вараг у грэкі", які, безумоўна, уплываў на гаспадарчае жыццё земляў, праз якія пралягаў. Значэнне заходнедзвінскага адгалінавання гэтага важнага воднага шляху для станаўлення Полацка, Віцебска, Друцка і іншых гарадоў Полацкай зямлі неаднаразова адзначалі даследчыкі.

Паходжанне гарадоў Полацкай зямлі можна ўявіць наступным чынам. Зародкамі найбольш старажытных з іх былі ўмацаваныя пункты славян, што ўзнікалі пры іх рассяленні. Тут вылучаецца Полацк.

*У сувязі з каланізацыяй навакольнай тэрыторыі і ўстанаўленнем даніны ў Падзвінні адначасова з Полацкам ствараліся іншыя ўмацаваныя пункты (Віцебск, Заслаўе, крыху пазней Друцк, Мінск, Лукомль), якія залежалі ад Полацка ў адміністрацыйных і ваенных адносінах, з'яўляючыся правобразам будучых так званых малодшых гарадоў.*

*Асноўнымі населенымі пунктамі на тэрыторыі Полацкай зямлі ў XI—XII стагоддзях былі сельскія паселішчы. Ва ўсходнеславянскім грамадстве гэтага перыяду ў сувязі з працэсам станаўлення розных форм залежнасці ад буйной знаці сяляне маглі апынуцца ў якасці закупаў, уключаліся ў панскую чэлядзь, закладваліся ў халопы. Узнікала шматукладнае грамадства, у якім паступова пераважаў феадальны ўклад.*

*Насельніцтва гарадоў папаўнялася выхадцамі з вёсак. Рамеснікі сяліліся каля старых умацаваных пунктаў ці зноў пабудаваных феадальных двароў, пагранічных ахоўных крэпасцей, каля вялікіх водных шляхоў, волакаў і пераправаў, пасярод густанаселеных мясцовасцей, дзе жыхары мелі патрэбу ў рамесных вырабах. Сяляне, пасяляючыся на гарадскіх пасадах, прытрымліваліся старых звычаяў абшчыннага кіравання.*

У першую чаргу асвойваліся раёны, больш прыдатныя ў сельскагаспадарчых адносінах. Важнае значэнне мела наяўнасць рэчак і азёр, якія выкарыстоўваліся як транспартныя магістралі.

Археолаг П. Аляксееў выказаў меркаванне, што Друцк узнік у гушчы крывіцкіх паселішчаў, якія існавалі ў міжрэччы Друці і Усвейкі (Усвіке Бук), дзе праходзіў сухапутны волак з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Дняпра. На гэтым волаку сяліліся "валачане", якія мелі цяглавую жывёлу, "колы" і іншыя прыстасаванні для транспарціроўкі грузаў па волаку. Волак прыцягваў увагу вярхоў грамадства. Яны і збудавалі тут крэпасць, якая дала пачатак Друцку.

**Працяг.**
**Пачатак у № 25.**



ПРАДСТАЎЛЯЕ «LA SANDR»

# СЕНСАЦЫЯ! ВІЦЕБСКІЯ МАСТАКІ ВЫХОДЗЯЦЬ З«ПАДПОЛЛЯ»!

*Такімі словамі пачынаецца рэкламны ролік, які заклікае гледачоў па ўсіх каналах Беларускага тэлебачання на выставу ў галерэю "La Sandr", арганізаваную сумесна з прадзюсерскім цэнтрам "Клас-клуб" "Джас-Крафт".*



*Юрый і Таццяна РУДЭНКІ.*

І, сапраўды, упершыню ў Мінску ў такім аб'ёме дэманструе сваю творчасць сямейны дуэт Рудэнкаў, хаця ведаюць іх ад Аляскі да Эміратаў, уключаючы Фінляндыю, Германію, Ізраіль. Зусім тыповая гісторыя для постсавецкай краіны: сваіх герояў мы прызнаём апошнімі.

У Віцебску гэтую пару абажае публіка, яна яркая славутасць "Славянскага базару".

Абаяльныя і жыццярадасныя ў зносінах, яны і ў творчасці літаральна "вулкан эмоцый", які шматколернай лаваю разліваецца ў габеленах, баціках, ювелірных упрыгажэннях і дробнай пластыцы.

Мастакі, адыходзячы ад традыцыйных формаў і прыёмаў, пастаянна што-небудзь прыдумваюць, прыўносяць свае вынаходствы, відазмяняюць ужо вядомыя ў мастацтве наработкі. Іх новаўвядзенні не маюць яшчэ навуковых тэрмінаў і іншы раз абазначаюцца як "аўтарская тэхніка".

Арыгінальнасць мыслення і нястрымная фантазія даюць надзвычайныя вынікі.

У гладкатканыя габелены ўплятаюцца шаўковыя жгуты і пласціны, доўгі ворс. А бацік на атласе служыць фонам і асновай для вышыўкі шоўкам, бісерам. Вышыўка часам аб'ёмная, выпуклая, часам гладкая і тонкая, як графічная лінія, а іншы раз дробная, ювелірна вытанчаная.

Каляровая гама ў кожнай рабоце вырашаецца па-свойму, у залежнасці ад задумы, але заўсёды гарманічна, без дысанансаў.

Глыбіня прасторы часта падкрэсліваецца чорным фонам, што надае эфектнае гучанне ўсім астатнім колерам.

Што тут скажаш — прафесіяналізм!

Дваццаць пяць гадоў разам працуюць мастакі ў чатыры рукі, і ўсё ж у кожнага ёсць нешта сваё: у Таццяны — жывапіс, у Юрыя — пластычнае мастацтва. Яго кампазіцыі з мельхіёру з караламі, жэмчугам, горнага хрусталю ў спалучэнні з бронзай, з серабра з каменем унікальныя. Не выпадкова яго назвалі "беларускім Фабержэ".

А ювелірнае мастацтва Юрыя — гэта цудоўнае валоданне майстэрствам работы з рознымі матэрыяламі для ўцехі фантазій і густу жонкі. Буйныя ўпрыгажэнні — кальe, завушніцы, пярсцёнкі з россыпамі самацветаў у залатой і сярэбранай загадкавай аправе — багатыя на дэталі.

І ўдзячная жонка носіць гэтыя аксесуары з вялікім задавальненнем і гордасцю.

Творчасць Рудэнкаў неардынарная. У ёй зліліся ў адно гучныя каларытныя акорды з узвышана-эмацыянальным настроем у энергічным рытме тэкстыльных і пластычных кампазіцый.

Маючы зносіны з імі і іх мастацтвам, радуешся за Айчыну: ёсць жа такія таленты!

**Ларыса БОРТНІК,**
**мастацтвазнаўца.**



*Ракавіна.*



*Крыж. Серабро, золата, карунд, жэмчуг, цыркон. 1993.*



*Ізумрудны свет.*



*Антычная ваза.*

«БЕЛАРУСКАЕ МУЗЫКАЗНАЎСТВА — 2000»

# НАВУКОВЫЯ ЧЫТАННІ Ў ГОНАР Лідзіі МУХАРЫНСКАЙ

У Беларускай акадэміі музыкі паспяхова прайшлі чарговыя IX навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці выдатнага беларускага музыказнаўцы, фалькларыста і этнамузыколага Лідзіі Мухарынскай. Яны сталіся своеасаблівым, вельмі грунтоўным і значным працягам мінулых мерапрыемстваў такога кшталту, пэўным вызначэннем асноўных шляхоў беларускай музычнай навукі на будучае тысячагоддзе. Дарэчы, у гэтых чытаннях, якія мелі сімвалічную назву "Беларускае музыказнаўства-2000", як і заўсёды, бралі ўдзел розныя па ўзроўню і сферах інтарэсаў дакладчыкі: аспіранты і студэнты-музыказнаўцы розных курсаў БДАМ, а таксама выкладчыкі. Але ж, безумоўна, вядучую ролю ў сёлетніх чытаннях адыгрывалі менавіта маладыя даследчыкі-пачаткоўцы, чыя цікавасць па розных накірунках мастацтва, асобных праблемных з'явах у музычнай навуцы беражліва і па-майстэрску прафесійна падтрымліваюць навуковыя кіраўнікі.

Менавіта да такіх надзейных выкладчыкаў, сапраўдных знаўцаў беларускага музычнага мастацтва належала і сама Лідзія Мухарынская. Яе доўгае і надзвычай плённае жыццё (а пражыла яна больш за 80 гадоў) было сапраўдным служэннем абранай справе, людзям, роднай песні, музыцы ўвогуле. Акрамя фанатычнай працаздольнасці і бліскучай адукаванасці, Лідзія Саўлаўна здзіўляла высокай (жыццёвай і прафесійнай) духоўнасцю, асаблівай сардэчнасцю. Такія чалавечыя якасці на працягу ўсяго жыцця прыцягвалі да Л. Мухарынскай шматлікіх вучняў. І кожны з іх, акрамя энцыклапедычных ведаў з усіх кансерваторскіх курсаў, дасведчанасці ў сучасным і класічным мастацтве, адзначаў яе шчырае захапленне беларускім фальклорам, якім яна літаральна "паланіла" і сваіх студэнтаў. Творчы ўзлёт Лідзіі Саўлаўны ў якасці этнамузыколага супаў з яе працай у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе яна праяўляла сябе і як музыказнаўца-гісторык шырокага профілю, і як вучоны-практык. Магчыма таму сярод яе вучняў мы бачым вядомых у Беларусі і ў замежжы даследчыкаў нацыянальнай спадчыны Зінаіду Мажэйка, Тамару Варфаламееву, Тамару Якіменка.

Але ж і сама Лідзія Мухарынская была не толькі навукоўцам, чые працы "Меладычная мова сучаснай беларускай народнай песні", "Беларуская народная песня: нарысы тыпалогіі развіцця", "Беларуская народная партызанская песня" сталіся асновай, тым падмуркам, на якім сучасныя музыказнаўцы-фалькларысты будуюць свае важкія доследы. Як таленавітага чалавека і вопытнага музыканта яе ведалі і паважалі калегі з далёкага замежжа, дзе Лідзіі Саўлаўне не раз даводзілася выступаць з уласнымі паведамленнямі на разнастайных кангрэсах, сімпозіумах, канферэнцыях, семінарах. Таму не дзіўна, што на запрашэнне прыняць удзел у міжнароднай канферэнцыі "Славянская этнамузыкалогія: накірункі, метады, канцэпцыі", якая прысвячалася 90-годдзю з дня нараджэння Л. Мухарынскай, адгукнуліся такія знаныя даследчыкі, як Любінка Мількавіч (Бялград), Транг Куанг Хай (Парыж), Ганна Чаканоўска (Варшава), Віктар Гусеў, Галіна Таўлай, Ігар Мацієўскі (Санкт-Пецярбург), Маргарыта Енгаватава (Масква), Соф'я Грыца (Кіеў). Зразумела, у канферэнцыі, што праходзіла ў Мінску, удзельнічалі і беларускія навукоўцы: Зінаіда Мажэйка, Іна Назіна, Ларыса Касцюкавец, Тамара Варфаламеева, Тамара Якіменка і іншыя. У сваю чаргу, нашы беларускія этнамузыколагі па магчымасці імкнуцца актыўна ўдзельнічаць у сучасных міжнародных канферэнцыях, таму можна ўпэўнена казаць: шлях, пракладзены Л. Мухарынскай, пашыраецца яе паслядоўнікамі.

У гутарцы са сваёй вучаніцай Т. Якіменка Лідзія Саўлаўна неаднаразова выказвала думкі не толькі аб вывучэнні, але і аб захаванні нацыянальнага народнага мастацтва, якое апынулася цяпер у вельмі складаным становішчы. Сучаснае існаванне беларускага музычнага фальклору патрабуе да сябе пільнай увагі і значнай дапамогі з боку прафесійных даследчыкаў-фалькларыстаў. Асаблівая адказнасць, адзначала яна, выпадае на долю маладых этнамузыколагаў, якім давядзецца клапаціцца пра далейшае паўнавартаснае жыццё спрадвечных народных традыцый.

Гэтыя слушныя выказванні асабліва актуальна гучаць напярэдадні наступлення новага тысячагоддзя, але і ў тыя часы яны не засталіся без увагі. Ідэя стварэння навуковых чытанняў памяці Лідзіі Саўлаўны, дзе важнае месца займае этнамузыкалагічная тэма, належала менавіта Тамары Якіменка. Дзякуючы яе ініцыятыве, руплівасці, адказнасці, штогод адбываюцца гэтыя сходы маладых і сталых, пачаткоўцаў і ўжо вопытных даследчыкаў. Паказальна, што на чытаннях слухачы маюць магчымасць пачуць меркаванні наконт розных праблемных з'яў у музычным мастацтве: гэта гісторыя, тэорыя і эстэтыка заходнееўрапейскай, беларускай і рускай класікі, сучаснай сусветнай кампазітарскай творчасці, фальклору (песеннага і інструментальнага). У такім шырокім аглядзе музычнага мастацтва мерапрыемства нібы набліжаецца да разнастайнасці прафесійных інтарэсаў самой Лідзіі Мухарынскай.

Навуковыя чытанні па добрай традыцыі атрымліваюць не толькі "вуснае" гучанне. Тэзісы дакладаў рэгулярна друкуюцца дзякуючы выдавецтву Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, яны з'яўляюцца карыснымі дапаможнікамі для тых, хто вывучае нацыянальную беларускую культуру. Лідзія Мухарынская неаднаразова адзначала ў сваіх прыватных размовах, выступленнях па радыё ці ў друку, што будучыня нашага нацыянальнага музыказнаўства — менавіта ў маладых, апантаных знаўцах музычнага мастацтва і музычнага фальклору.

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### З ПОШТЫ Яўгена ЛЕЦКІ

Паважаны спадар Я. Лецка! Перасылаю Вам два свае артыкулы: "За цаной не пастаім" і "Чалавек сам сабе шкодзіць".

Цяпер я пішу артыкул пра ваеннапалонных савецкіх байцоў і савецкіх грамадзян, якія пасля вайны апынуліся ў Заходняй Нямеччыне і былі перахазаныя саветам. Аб гэтым пісала газета "Голас Радзімы" № 41 15 кастрычніка 1998 года, і я ўзяў з яе некаторыя даныя.

Вашу літаратуру, якую Вы мне прысылаеце, я даю пачытаць некаторым беларусам. Ёсць артыкулы, што чытаюцца з болем. Але цешыць, што народ змагаецца, жыве і ідзе супраць цячэння.

Я думаю, беларусы на эміграцыі павінны супрацоўнічаць з газетай "Голас Радзімы". Але ў некаторых з іх перахоўваецца стары недавер да газеты, калі яна выконвала дзяржаўную палітыку русіфікацыі і пісала прапаганду. Сёння, як я бачу, рэдакцыя змагаецца за беларускую мову і яе культуру, і гэта сталася не так даўно, як стаў новы рэдактар.

На гэтым буду заканчваць і застаюся з пашанай да Вас і Вашых сяброў-супрацоўнікаў.

**Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ.**
Лондан, Англія.

### ГОСЦІ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Па запрашэнні прэзідэнта МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага ўправу наведалі Зора і Вітаўт Кіпелі. Нашы знакамітыя суайчыннікі са Злучаных Штатаў Амерыкі, навукоўцы і грамадскія дзеячы, удзельнічалі ў кангрэсе Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, што праходзіла ў Мінску напрыканцы мая.

У сядзібе "Бацькаўшчыны" шаноўных гасцей горача віталі сябры ўправы, супрацоўнікі арганізацыі. Гэта быў не проста "візіт ветлівасці" афіцыйнага характару, а цёплая нефармальная сустрэча сяброў і аднадумцаў.

Вітаўт і Зора Кіпелі расказалі пра жыццё нашай дыяспары ў Амерыцы, пра новых беларусаў, якіх шмат прыбыло за апошнія гады ў ЗША, пра іх інтэграцыю ў амерыканскае грамадства ды ўзаемадачыненні са старой эміграцыяй і ўдзел у культурна-асветнай дзейнасці беларускай дыяспары.

У сваю чаргу, нашым шаноўным гасцям цікава было даведацца, чым і як жыве ў апошні час "Бацькаўшчына". Трэба сказаць, што гэта была не простая цікаўнасць, бо ў замежжы множацца розныя чуткі пра Згуртаванне беларусаў свету і многія суайчыннікі з трывогай і надзеяй чакаюць: вытрывае "Бацькаўшчына" ці не вытрывае? Зора і Вітаўт Кіпелі — не староннія людзі, яны з'яўляюцца сябрамі Вялікай рады "Бацькаўшчыны". Таму гутарка з імі мела не толькі інфармацыйна-пазнавальны характар, але і канструктыўна-практычны.

У прыватнасці, былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з Трэцім з'ездам "ЗБС "Бацькаўшчына". З'езд павінен адбыцца ўлетку 2001 года, як таго патрабуе статут. Здавалася б, часу яшчэ хапае, але на сустрэчы з Кіпелямі было вырашана распачынаць падрыхтоўку да яго ўжо цяпер, не марудзячы. Так што ў найбліжэйшы час нашы замежныя суайчыннікі будуць праінфармаваны аб пачатку работы па падрыхтоўцы да з'езда.

А пакуль што ў "Бацькаўшчыне" дбаюць пра тое, як годна адзначыць 10-годдзе ўтварэння Згуртавання беларусаў свету. На юбілейным ўрачыстасці прэзідэнт "Бацькаўшчыны" Р. Гарэцкі запрасіў Зору і Вітаўта Кіпеляў.

**Галіна СЯРГЕЕВА,**
**сябра Управы "ЗБС "Бацькаўшчына".**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# РАДЫЁ «РАЦЫЯ»: ХТО МЫ ЁСЦЬ?

"Рацыя" — гэта перш за ўсё малады калектыў і новыя думкі ад маладых журналістаў. Гэта адчуваецца ў атмасферы фірмы: адкрытасць, ветлівасць, адсутнасць прэтэнцыёзнасці.

— Ва ўмовах заняпаду беларускага школьніцтва, прэсы толькі радыё мае шанс існавання ў нашай прасторы. Ідзе размова найбольш пра захаванне беларускай свядомасці і адукацыю нашага грамадства: даць чалавеку зразумець, ХТО МЫ ЁСЦЬ, — кажа **Віктар Стахвюк**, дырэктар радыё "Рацыя".

**Валя Лаеўская** — па адукацыі беларусістка, пяць гадоў працы на радыё "Свабода", родам з Бельска-Падляскага:

— Мой дэвіз: аб'ектыўна пра ўсё, каб у сваім адчуванні перадаць справу аб'ектыўна, каб слухач сам выбіраў праўду са свайго пункту гледжання.

**Марко Заброцкі**, раней журналіст Радыё Беласток, студэнт беларускай філалогіі ў Беластоку, шматгадовы старшыня ЗБМ:

— У "Рацыі" большыя магчымасці, чым у перадачы "Пад знакам Пагоні": справа ў абмежаванасці эфірнага часу. Зараз можна нашмат шырэй прадставіць тэму, паказаць яе з некалькіх пунктаў гледжання. У працы найбольш цэніцца нармальнасць кантактаў з польскім слухачом і свойская атмасфера.

Марко Заброцкі спецыялізуецца ў рэпартажы з глыбінкі.

— Мне здаецца, што я шчаслівы ў "Рацыі", — кажа сам пра сябе **Ян Мордань**, журналіст і радны гміны Бельск-Падляскі.

Ян Мордань пакуль што лічыць сябе няздзейсненым журналістам, хаця і ў "Рацыі" часта дэкламуе паэзію або прозу. Аднак прысутныя сябры-журналісты пярэчаць: "Ён не бяжыць за папулярнасцю, папулярнасць бяжыць за ім!"

**Лукаш Сцепанюк** — студэнт IV курса беларускай філалогіі ў Варшаве, аўтар і рэдактар (разам з Хрыстафорам Сяськевічам) суботняга хіт-параду:

— "Рацыя" гэта адзіны хіт-парад беларускай музыкі ў свеце. Наш хіт-парад слухаюць не толькі на Беласточчыне, але і ў Беларусі. Многа паклоннікаў перадачы галасуе праз пасрэдніцтва Інтэрнэта.

**Альжбета Бура:**

— Мая мара — навучыцца добра рабіць перадачы, быць прафесіяналкай.

Выпускніца паланістыкі, рэдагуе выданні ў панядзелкі. У суботу вядзе чвэрцьгадзінную перадачу для дзяцей. Мае надзею, што калі пабольшыцца эфірны час, будзе месць 30 хвілін для дзяцей. Найбольшы поспех — мае ўжо кантакт з дзецьмі і свайго віртуальнага героя Марсіка, з якім час ад часу кантактуецца.

Стаць прафесіяналам хоча таксама гукарэжысёр **Пятрусь Пракопчык**, студэнт беларусістыкі ў Беластоку. У нядзелі Пятрусь вядзе канцэрт пажаданняў.

— Нашы віншаванні бясплатныя. Слухач сам можа выбраць жаданую песню. Трэба толькі нам пазваніць або напісаць, — кажа Пятрусь.

— Да конкурсу на журналіста радыё "Рацыя" прыступілі трыццаць кандыдатаў. У большасці — студэнты, нядаўнія выпускнікі універсітэтаў. Зараз радыё мае чатырох штатных працаўнікоў і дваццаць супрацоўнікаў-карэспандэнтаў. Аднак, каб трапіць у штат радыё, нашы супрацоўнікі павінны прайсці яшчэ цыкл курсаў, навучыцца працаваць як прафесіяналы, кажа **Яўген Вапа**.

Не выпадкова даём апошняе слова старшыні Беларускага саюза ў РП. Яшчэ да ўзнікнення гэтага радыё ў Беластоку, Варшаве і Мінску хадзіў анекдот, што толькі Вапа мае рацыю ў радыё "Рацыя".

**Ганна КАНДРАЦЮК,**
**"Ніва".**
Польшча.

РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ



### "НАДЗІНА ВЁСКА"

Такую назву даў свайму фільму, знятаму ў радыяцыйна забруджанай вёсцы Чачэрскага раёна японскі рэжысёр Матахасі Сеіці ў 1996 годзе, у дзесятую гадавіну чарнобыльскай трагедыі. Галоўныя героі фільма дзесяці- і адзінаццацігадовыя сёстры Надзя і Алена Юранавы, якія разам са сваімі бацькамі жылі ў вёсцы Дудзічы. Акрамя сям'і Юранавых, у вёсцы жыло яшчэ некалькі сем'яў, і пра гэтых людзей у паслячарнобыльскі час расказвае фільм. Першымі гледачамі на беларускай зямлі былі, канешне, самі героі. У 1998 годзе Матахасі Сеіці прадставіў фільм на Міжнародным кінафестывалі ў Берліне, дзе стужка выклікала вялікую цікавасць і была ўдастоена дыплома кінафестывалю.

Зусім нядаўна рэжысёр з Японіі пабываў у Гомелі, там былі арганізаваны прагляды яго фільма.

НА ЗДЫМКУ: японскі рэжысёр фільма "Надзіна вёска" Матахасі СЕІЦІ з гераінямі фільма Надзяй і Аленай ЮРАНАВЫМІ ў Гомелі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,**
БелТА.

БЕЛАРУСІКА

# АД КАНГРЭСА ДА КАНГРЭСА

## ЗДАБЫТКІ І ПРАБЛЕМЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

У 1995—2000 гадах дзейнасць асацыяцыі была, паводле статута, накіравана на даследаванне духоўнай спадчыны беларускага народа і іншых народаў Беларусі, развіццё беларускай культуры, пашырэнне яе ў свеце, умацаванне сувязей з зарубежнымі даследчыкамі, якія займаюцца праблемамі беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, культуры, правядзенне навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, семінараў, "круглых сталоў" беларусістаў, выданне адпаведнай літаратуры, урэшце, абмен выданнямі, навукова-бібліяграфічнай інфармацыяй у гэтай галіне. Крызісныя з'явы і ізаляцыяніцкія тэндэнцыі істотна паўплывалі на дзейнасць асацыяцыі, але не маглі змяніць яе кансалідацыйную сутнасць.

21 верасня 1999 года Міжнародная асацыяцыя беларусістаў прайшла перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь. У ходзе перарэгістрацыі былі ўдакладнены, у адпаведнасці з існуючым у Беларусі заканадаўствам, некаторыя палажэнні статута, а таксама элементы эмблемы, на што была (шляхам апытання па электроннай пошце) атрымана згода большасці сяброў Камітэта МАБ. Такім жа шляхам было вырашана: у сувязі з перарэгістрацыяй перанесці III Міжнародны кангрэс беларусістаў (яго першую сесію) на май 2000 года, правесці яго ў Мінску, тым самым змяніўшы рашэнне II Кангрэса МАБ. Пасля перарэгістрацыі мы сталі афіцыйна называцца Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" (выбар быў невялікі: аб'яднанне ці арганізацыя). Нацыянальная асацыяцыя беларусістаў (старшыня Уладзімір Конан) прыняла рашэнне ўвайсці ў склад Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі.

З мая 1995 да мая 2000 года колькасць сяброў асацыяцыі павялічылася прыкладна на 50 асоб. У той жа час ад нас адышлі такія вядомыя вучоныя, як Лешак Асоўскі (Польшча), Павел Ахрыменка (Украіна), Міхаіл Біч, Мікалай Воінаў, Вячаслаў Вярэніч (Беларусь), Мікалай Гайдук (Польшча), Элана Грынавецкене (Літва), Уладзімір Калеснік, Сяргей Купцоў (Беларусь), Лявон Луцкевіч, Ванда Місявічэне (Літва), Здзіслаў Нядзеля (Польшча), Адам Супрун (Беларусь) і іншыя. Некаторыя сябры (пераважна з Германіі і Канады), кіруючыся рознымі меркаваннямі, перасталі падтрымліваць сувязі з Камітэтам МАБ і яго бюро. У той жа час былі ўстаноўлены кантакты з вучонымі-беларусістамі такіх краін, як Аўстралія, Ізраіль, Македонія, Славакія, Швецыя. Праўда, нацыянальныя асацыяцыі там яшчэ не створаны. Колькасць нацыянальных і рэгіянальных асацыяцый за справаздачны перыяд не павялічылася. Сёння яны існуюць у Балгарыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі (асацыяваная), ЗША, Латвіі, Літве, Польшчы, Расійскай Федэрацыі (Масква, Санкт-Пецярбург, паасобныя сябры — у абласных гарадах і аўтаномных рэспубліках), на Украіне, у Францыі, Чэхіі, Японіі, фармальна — у Германіі і Канадзе. Паасобныя сябры ёсць у Аўстрыі, Індыі, Італіі, Македоніі, Казахстане, Сербіі, Славеніі, Таджыкістане, Фінляндыі, Швейцарыі. У апошні час многа цікавых канферэнцый і выданняў на рахунку ў венгерскіх (кіраўнік Андраш Золтан), літоўскіх (Альма Лапінскене), польскіх (Аляксандр Баршчэўскі) беларусістаў.

Сярод беларускіх суполак асацыяцыі колькасна і арганізацыйна-навуковай работай вылучаюцца суполкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (кіраўнік Любоў Тарасюк), Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна (Аляксей Майсейчык), Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава (Ганна Мезенка), Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (Аляксей Пяткевіч), Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (Тацццяна Рошчына). З'явілася студэнцкая суполка на факультэце міжнародных адносін БДУ, асацыяваная суполка гісторыкаў права. Вялікую аб'яднальную работу з суполкамі Беларусі (найперш — сталічнымі) праводзіць Нацыянальная асацыяцыя на чале з Уладзімірам Конанам.

Заканчэнне будзе.



## МАСТАЦТВА БЕЗ МЕЖАЎ



Віцебскі скульптар Іван Казак — удзельнік пятнаццаці рэспубліканскіх і многіх міжнародных выстаў. Нядаўна ў нямецкім горадзе Нінбург адкрылася яго скульптурная работа "Чарнобыльская мадонна".

НА ЗДЫМКАХ: Іван КАЗАК у сваёй майстэрні; рэпрадукцыя работы "Чарнобыльская мадонна", устаноўленай у Нінбургу.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

**У ПОЛЬШЧЫ — ПА-БЕЛАРУСКУ.** Нядаўна ў сталічным Доме дружбы ўшаноўвалі групу маладых палякаў. Перакладчыкаў у зале не назіралася. У іх не было патрэбы, таму што юнакі і дзяўчаты, што прыехалі, — пераможцы VI Усепольскай алімпіяды беларускай мовы.

— Гэта адзіная алімпіяда, якая праводзіцца сярод нацыянальных меншасцей Польшчы, хаця ёсць у нас і ўкраінцы, і немцы, і чэхі, і многія іншыя дыяспары, — сказаў старшыня Усепольскага камітэта па алімпіядзе беларускай мовы Алесь Баршчэўскі. — Ёсць мэта — актывізаваць моладзь, якая вывучае ў школах беларускую мову, абудзіць цікавасць да глыбокага вывучэння гэтай багатай мовы і літаратуры.

У Беларусь прыехаў 21 фіналіст VI Усепольскай алімпіяды беларускай мовы. Тут і прайшло ўручэнне дыпломаў і прызоў. Першае месца прысвоілі Хэлене Сядзевіч, другое — Агнешцы Галімскай, трэцяе — Кацярыне Мартынюк.

## КНІГАЗБОР

# ЮКАГІРСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў БЕЛАРУСІ

З'яўленне юкагірскай літаратуры ў Беларусі звязана з імем "юкагіра Ушканскага роду Ясачнай", вядомага пісьменніка Тэкі Адулока (Спірыдонава Мікалая Іванавіча — 1906—1938). У 1925 годзе Мікалай Спірыдонаў, як здольны юнак, Камітэтам па справах малых народнасцей ЯАССР "быў рэкамендаваны на вучобу ў Ленінградскі універсітэт на этнографа-геаграфічнае аддзяленне". Старшыня камітэта Поўначы ў Прэзідыуме ВЦВК РСФСР беларус Пётр Смідовіч (1894—1935), ураджэнец горада Рагачова, у 1930 годзе пісаў: "Першы і адзіны з племені юкагіраў таварыш Спірыдонаў атрымаў вышэйшую адукацыю ў Ленінградскім універсітэце". У 1931 годзе М. Спірыдонаў паступае ў аспірантуру і ў 1934 годзе становіцца кандыдатам эканамічных навук, паспяхова абараніўшы дысертацыю на тэму "Гандлёвая эксплуатацыя юкагіраў у дарэвалюцыйны час". У тым жа годзе ў Ленінградскім аддзяленні дзяржаўнага выдавецтва дзіцячай літаратуры выходзіць яго кніга "Жыццё Імтэўргіна Старэйшага", якая адразу ж была адзначана літаратурнай прэміяй і перакладзена на многія мовы свету.

На беларускую мову кнігу Тэкі Адулока "Жыццё Імтэўргіна Старэйшага" (Мінск, 1935 г.) пераклаў вядомы дзіцячы беларускі пісьменнік Янка Маўр (Іван Фёдараў — 1883—1971).

Тады ж, у 1935 годзе, у Мінску выйшаў польскі пераклад кнігі Teki Odulok "Zycie Imteurgina Starszego", Мінск, 1935 г., у перакладзе Х. Хальберштата.

А ў 1936 годзе ў Мінску выходзіць і літоўскі пераклад: Teki Odulok "Imteurgino Viresniojo Givenimas", Minskas, 1936 г. у перакладзе Аляксандраса Якшавічуса (1886—1971), які ў той час загадваў партыйнай школай пры ЦК КП(б) Беларусі. Пазней, як і Тэкі Адулок, А. Якшавічус быў рэпрэсіраваны, а пасля рэабілітацыі жыў у Вільнюсе.

У 1991 годзе ў Мінску выйшла першая кніга заключнага тома, прысвечанага Расійскай Федэрацыі, серыі "Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР", у якой была надрукавана юкагірская народная казка "Паляўнічы і рабаўнікі" ("Охотник и грабители") у перакладзе Алеся Пісьмянкова.

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

## ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ Хведара ІЛЬЛЯШЭВІЧА

# «Я ШЧАСЬЛІЎ ТАДЫ, КАЛІ ВОЛЯЙ НАПОЎНІЦЦА РОДНЫ НАШ КРАЙ...»

● **Лідзія САВІК.**

Пра апошнія моманты жыцця паэта, яго духоўны стан сведчыць ліставанне Вольгі Таполі і Юркі Віцьбіча. Вольга Таполя (сапраўднае прозвішча — Зубко) — беларуская пісьменніца, жанчына трагічнага лёсу. Да вайны яна скончыла Беларускі універсітэт, настаўнічала, затым працавала ў Дзяржаўным выдавецтве, падчас акупацыі — у рэдакцыі "Менскай (Беларускай) газэты". У 1944 годзе апынулася ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны (Міхельсдорф). Не мела сям'і, пакутавала ад адзіноцтва, шмат пісала вершаў (найлепшыя з іх: "Я не паэт", "Матулі", "Сустрэча", "Табе адзінаму..."), апавяданняў ("Маці", "Навальніца", "Ялінка", "Пад Новы год"), працавала над раманамі: "Дачка", "Тры спатканьні", друкавалася ў эмігранцкіх часопісах: "Шляхам жыцьця", "Пагоня", "Скаўт", "Шыпшына", уваходзіла ў літаратурнае аб'яднанне "Шыпшына". Згадзіўшыся на прапанову Ю. Віцьбіча і па запрашэнні Х. Ільляшэвіча, пераехала ў Ватэнштэт. Напачатку ўсё складвалася найлепшым чынам, яна дапамагала Х. Ільляшэвічу ў яго шматлікіх абавязках, у выдавецкай справе. Былі наладжаны літаратурныя вечар Вольгі Таполі, дзе яна з поспехам чытала свае творы. У лістах да Ю. Віцьбіча яна шмат пісала пра Х. Ільляшэвіча:

"...Я ім страшэнна захапляюся, але, зразумела, як чалавекам і паэтам, а не як каханкам, якім ён для мяне ніколі не быў і не будзе. Таму майму захапленню ім не перашкодзіць ягоны сум па сваёй сям'і... Я магу толькі бязмежна спачуваць яму. Я таксама прысвяціла яму верш... Ільляшэвіч якраз так, як Вы казалі: другому апошнюю кашулю гатоў аддаць. Сама бачу, як ён апошняе аддае іншым, а сам ня мае нічога, бядняк. Мне яго да болю шкада... Мы знаходзімся ў сумежных пакоях і бачымся штопадзень, а часам і штохвіліны. Мы працуем разам... Мне іншага, ён якраз нядрэннай думкі аб маіх вершах... Ён мне казаў: "Ты, Вольга, наша Ахматава і ўносіш у нашу паэзію штосьці новае..." У нас быў праект вялікага сяброўства і "літаратурнага кааператыву", мы нават напісалі разам адну маленькую рэч для часапісу — бяз прозьвішчаў..." І далей, у наступным лісце: "...Вы і Ільляшэвіч — цудоўнейшыя людзі, адзіныя, якіх я ведаю тут. Мы з ім часта Вас успамінаем, мы Вас вельмі хвалім — гэта не камплімент. І ведаеце, што Хведар асабліва часта паўтарае аб Вас? Што, калі ён памрэ, дык Вы будзеце адзіным чалавекам, які скажа аб ім цёплае і шчырае слова, слова праўды. Некалі ён разьлічваў, што гэта ж самае разам з Вамі зраблю і я, але цяпер ён думае, што калі ён памрэ, то і я, пэўна, памру...

Так, Вы і Ільляшэвіч — абодва людзі незвычайныя, людзі вялікай душы. Вы ўпадаеце рэдкімі чалавечымі якасьцямі абодва, але Вы, разам з тым, і розныя з ім, ён — палкі, гарачы лірык і ў творчасьці і ў жыцьці, Вы ж больш эпічны, так сказаць. І яшчэ, мне здаецца, Вы — цьвярдзейшы. Гэта плюс. Ільляшэвіч мяккі, як воск, і гэта зусім дрэнна. З ім нават дзеці могуць зрабіць усё, што хочуць. Мабыць, усе, апрача мяне, бо я сама перад ім занадта мяккая. Ён страшэнна любіць дзяцей,.. яны сядзяць у яго па часам цэлымі днямі, перашкаджаюць яму ў працы і проста тэрарызуюць яго...

Гавару я зусім аб'ектыўна: Ільляшэвіч — чалавек выключны. Нязвычайна здольны, мнагагранны, вельмі глыбокая і складаная натура... Пра такіх я толькі ў кнігах чытала і ня ведала, што пабачу такога ў жыцьці. А вось пабачыла й пазнала нават больш, чым іншыя, бо іншыя, нават найлепшыя ягоныя сябры, ня ведаюць тых бакоў ягонага жыцьця і ягонае душы, якія ведаю я. Бо ён, хоць і шчыры вельмі, але і скрытны разам у некаторых дачыненьнях. Толькі, можа, гэта задорага будзе мне каштаваць...

Мая адданасьць цешыла Ільляшэвіча, бо ніхто ня быў тут яму адданы, ніхто яму не спачуваў, не разумеў. Ён мне неяк сказаў: "У сваім жыцьці я чуў замала цёплых словаў. Я іх патрабую — адчуваю гэта часам балюча". Але часам ён толькі дэнэрвуецца праз мяне, і я раблю яму ня лепш, а горш... Толькі часамі бывае добра, калі, забыўшыся на ўсё на сьвеце, мы гадзінамі гутарым "па душам", часамі нават пры замкнёных дзьвярах. Тады ён іншы раз гаворыць: "Вольга, мяшчанства ж тут скрозь, фактычна... Толькі ты ды я... Двое нас тут толькі... І яшчэ недзе там — Віцьбіч, на якога ўся мая надзея..."

Вядома, жаночае захапленне паэтам перарасло ў каханне, якое, аднак, не знайшло водгуку ў душы Х. Ільляшэвіча. Вольга прысвячала яму вершы, хоць і разумела яго абыякавасць. А Хведар цяпер яшчэ больш пакутаваў ад свайго заблытанага, супярэчлівага становішча, ад лагерных плётак і ў "Чорным сшытку", застаючыся сам-насам са сваімі думкамі, пісаў у вершы "Жонцы":

**На вуліцах чужых, пустынных**
**Часта ў змрокі ў халодны**
**сутынак**
**убачу пастаць, падобную**
**да цябе.**
**Я іду за табой! Як гэта больна!**
**Больна вяртацца ў**
**сапраўднасьць.**
**Я бачу сябе сьмешным**
**дзіваком,**
**Ня ўмеўшым цаніць шчасьця.**
**Чужы панурых готык...**
**Маўчыць над затокай імглістай.**

**Дзе ты цяпер, мая сяброўка!**

У адным з апошніх лістоў (1 красавіка 1948 г.) да Ю. Віцьбіча Вольга Таполя скардзілася: "...Мне вельмі, вельмі сумна. Ільляшэвіч цяпер хворы. Ён ляжыць у сябе ў пакоі, і яму вельмі кепска. Учора было крышку лепей, ён прачытаў мой твор і неяк усьцешыўся, а сёньня зноў горай. У яго хворыя лёгкія і сэрца. Я за яго страшэнна баюся, бо яго брат памёр ад сухотаў...

Учора цэлы дзень ляжаў галодны. Я занесла яму тое-сёе, зварыла зацірку, а сама нічога не ела, бо ў нас з ім няма нічога... Але гэта ўсё было нішто для хворага... Я дамовілася з камандантам, каб Хведару далі, хоць часова дадатковыя харчы, і камандант зрабіў гэта... Сёньня ён атрымае. Але яму дрэнна, у яго жахлівы настрой. Кепска ў яго цяпер з нэрвамі таксама...

Яму цяжка. Сапраўдных сяброў у яго тут няма. Хведар страшэнна, жахліва самотны... Вакол толькі дробная, нізкая зайздрасьць, розныя інтрыгі.

Калі яму кепска цяпер, шмат хто цешыцца... І я не заўсёды магу яму дапамагчы з-за розных складанасьцяў. Становішча такое, што звар'яцець можна. Ах, калі б Вы былі недзе бліжэй, дарагі Юры Аляксандравіч! Я страшэнна баюся за Хведара. Вы напішаце яму, ці як праўда?.. Вы ж залаты чалавек, Юры Аляксандравіч, Вам жа ўсё можна сказаць, Вы ж не асуджаеце, як іншыя. А іншыя, якія ягоасуджаюць, самі ў сто разоў горш..." (Архіўная кніга).

У гэтых лістах, якія раскрывалі сапраўдную трагедыю беларусаў-выгнанцаў, гаварылі пра ўзаемаадносіны двух таленавітых, але вельмі розных, духоўна адзінокіх людзей, нездольных стаць апорай адзін аднаму, цэлы раманны пласт падзей асабістых і грамадскіх, жывыя галасы тых, хто пакутаваў без радзімы, але нёс яе ў сэрцы, лёсы так званых "здраднікаў", гнаных тады і сёння.

1948 год стаў трагічным для Вольгі і Хведара. Яна, зразумеўшы ўсю марнасць сваіх надзей на асабістае шчасце, вырашыла вярнуцца на радзіму. У апошнім звароце да Х. Ільляшэвіча гучаць яе шчырыя прызнанні: "Хведар, родны, найлепшы! Ітак — скончана... Мы нават не сябры, сказалі Вы... Які шалёны боль... Нічога няма, апроч гэтага болю... Дык я іду, Хведар... Іду туды... Што б ні чакала мяне. Я выканаю свой намер. Бывайце! Бывайце, родны, незраўнаны! ... Шчасьце маё, бывайце! Маё сэрца разрываецца ад болю... Хведар, я хацела быць Вам найлепшым, найшчырэйшым, найаддданейшым сябрам... Я люблю Вас больш, чым можна любіць... Вы для мяне даражэй жыцьця... Вы — над усімі і над усім!.. Помніце — ніхто ня будзе Вас любіць, як я!.. Я не магу бяз Вас!.. Вы — маё жыцьцё!.."

Амаль тыя ж словы ў апошнім лісце да Ю. Віцьбіча (13 ліпеня 1948 г.): "...Не магу ўстрымацца, каб не напісаць Вам гэтых апошніх радкоў. Бо нягледзячы на тое, што мы з Вамі — людзі розных шляхоў і розных перакананняў, але самыя светлыя ўспаміны аб Вас будуць жыць ува мне да апошніх хвілін майго жыцьця...

Я іду шляхам Тодара Лебяды. Гэта ўжо зроблена, і павароту няма. Можа, гэта вар'яцтва, пэўна, аддаю сябе на турму, на пакуту, але гэта зроблена шчыра... Як загіну, дык з чыстым сумленнем, бо шляхам доўгіх ваганьняў прышла я да аднаго перакананьня.

Мне бясконца цяжка і сумна, мне цяжка да чорнага жаху вар'яцтва, хвілінамі думкі мяшаюцца ў галаве. Я пакідаю Хведара, які стаў для мяне даражэйшым за жыцьцё...

Юры Аляксандравіч, бывайце!!! Ня судзіце... Ці — судзіце, як знаеце... Скажыце калі-небудзь Хведару, што маім апошнім словам будзе ягонае імя..."

Вядома ж, і Хведар Ільляшэвіч, і Ю. Віцьбіч асудзілі яе рэзка негатыўна, як "неўраўнаважаную, надламаную істоту" і, галоўнае, за яе імкненне вярнуцца "на радзіму", дзе яна адразу (як і "завяртанцы" Тодар Лебяда, Лявон Случанін) была асуджана на 15 гадоў катаргі.

Выехала Вольга Таполя на Беларусь летам 1948-га. Хведар Ільляшэвіч загінуў восенню 1948 года ў аўтамабільнай катастрофе каля Ватэнштэта на 38 годзе жыцця. Выгнанцы-беларусы шчыра аплаквалі яго смерць. Многія часопісы змяшчалі словы смутку пра паэта, які заўчасна загінуў.

"Імя Ільляшэвіча астанецца ўзорам для тых, што перанялі з ягоных рук нясплямлены штандар Беларусі. Яму было суджана памерці на чужыне і спачыць у чужой зямлі, але ягоны бунтарны, кахаючы Бацькаўшчыну дух, у шуканьні межаў вечнасьці, напэўна там, дзе самае дарагое ягонаму сэрцу, а гэтае самае дарагое завецца — Беларусь..." (Скаўцкі Бюлетэнь Штандару "Гарц", 1948, № 10).

Ю. Віцьбіч, у архіве якога захоўваюцца (як і спадзяваўся Х. Ільляшэвіч) літаратурныя творы паэта, пісаў у артыкуле "Усё для лепшай долі нашай Беларусі": "Калі адыходзіць у нябыт паэт, дык усё роўна створаныя ім вершы пануюць у людскіх душах. Таму, калі ў гадавіну сьмерці Хведара Ільляшэвіча наш розум пераносіць нас на ягоную магілку на адным з шматлікіх магільнікаў Нямеччыны, дык усё роўна сэрцам сваім мы заўсёды вітаем яго, як жывога".

Пахавалі Хведара Ільляшэвіча 10 лістапада 1948 года на могільніку ў Галендорфе, паблізу Браўншвейга, у той самы дзень, калі яму прыйшло запрашэнне ад Барыса Кіта пераехаць у Амерыку... Мусіць прадбачыў паэт, што не шмат гадоў яму адведзена лёсам жыць на свеце, калі ў адным з вершаў пісаў:

**Чуе сэрца, што не многа**
**Буду я на сьвеце жыць...**
**Хутка скончыцца дарога,**
**Засталось не шмат прайсьці...**
**Я хацеў бы зноў радзіцца,**
**Зноў цярпець за родны край...**
**Каб мне сонейку маліцца —**
**Не хачу у сьветлы рай!**
**Як памру, у сіняй ночы**
**Загарацца дзьве зары —**
**Гэта будуць мае вочы**
**Сумаваці па зямлі!..**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 24, 25.**

ПАСЛЯСЛОЎЕ


*Татарска-башкірскі падворак. Ульяна ШЫШКОВА з Мінска.*


*Адкрыццё фестывалю.*


*Хто спрытнейшы?*


*Цыганскі танец.*

# БЕЛАРУСЬ — КРАІНА ШМАТНАЦЫЯНАЛЬНАЯ

Адзін з найпрыгажэйшых беларускіх абласных гарадоў — Гродна 2—3 чэрвеня выглядаў па-святочнаму. Сюды з'ехаліся на III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур каля 600 удзельнікаў. Яны прадстаўлялі 16 рэспубліканскіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў, 130 творчых нацыянальных калектываў, створаных пры аб'яднаннях. Цэнтр старажытнага горада ператварыўся ў маляўнічы інтэрнацыянальны кірмаш, дзе прадстаўнікі розных нацыянальнасцей абсталявалі свае падворкі найлепшым чынам. Усе яны вызначаліся непаўторным нацыянальным каларытам. Тут можна было і песні нацыянальныя паслухаць, і ў гульнях прыняць удзел, і пакаштаваць нешта адметнае, характэрнае для той ці іншай нацыянальнай кухні.

У гэты дзень, здаецца, усе гродзенцы праігнаравалі хатнія і дачныя справы і цэлымі сем'ямі выйшлі на вуліцы. Гэтаму спрыяла і добрае надвор'е. На адкрыцці свята старшыня Гродзенскага гарвыканкама Анатоль Пашкевіч зазначыў: "Сімвалічна, што месцам правядзення Усебеларускага фестывалю стаў менавіта наш горад, дзе ў суладдзі і ўзаемапаразуменні пражываюць прадстаўнікі больш чым 60 нацый і народнасцей".

Да заключнага свята, якое прайшло ў Гродне, рыхтаваліся два гады. Усе мерапрыемствы мастацкага накірунку праходзілі ў Беларусі ў рамках III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур (дарэчы, статус Усебеларускага яму нададзены толькі напярэдадні гэтага фестывалю). Вось толькі некаторыя найбольш цікавыя мерапрыемствы: дзіцячы фестываль нацыянальных культур "Сонечны птах", V Рэспубліканскі фестываль мастацтва ўкраінцаў Беларусі, занальны фестываль украінскай і беларускай культур, прысвечаны 185-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі, Рэспубліканскі агляд польскамоўных калядных гуртоў, нацыянальныя святы, такія, як малдаўскае свята вясны Мэрцішор, карэйскае свята Новага года, эстонскае — Іванаў дзень, яўрэйскія — Пурым, Ханука, татарскае — Сабантуй і г. д. Сэнс гэтых мерапрыемстваў у гарманізацыі міжнацыянальных адносін сродкамі культуры, арганізацыя вольнага часу жыхароў рэспублікі, захаванне шматвяковых традыцый нацыянальных супольнасцей. І можа нехта скептычна паставіцца да гэтых конкурсаў, але такіх адзінкі. Бо, калі бачыш на вуліцах шчаслівыя, радасныя твары, значыць, усе намаганні таго каштуюць.

З пытаннем, ці атрымаўся фестываль, я звярнулася да начальніка Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуша Стружэцкага, чалавека, які нямала папрацаваў над яго арганізацыяй:

— Па творчаму ўзроўню калектываў гэты фестываль быў больш значным у параўнанні з папярэднімі. Фестываль стымуляваў як у цэлым культурна-асветніцкую дзейнасць нацыянальна-культурных аб'яднанняў, так і развіццё новых творчых калектываў. Думаю, што пасля гэтага фестывалю з'явяцца новыя самадзейныя калектывы. Трэба адзначыць: тое, што ўбачылі ў Гродне, было на даволі высокім выканальніцкім узроўні. Усе калектывы добра касцюміраваны. Лічу, што фестываль атрымаўся яркім, прыгожым, таму што да яго доўга і адказна рыхтаваліся. Не ва ўсіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў роўныя магчымасці, але абсалютная большасць пастаралася, каб выглядаць годна, прыгожа, паказаць сябе дастойна як прадстаўнікоў нацый, якія доўгія гады жывуць на тэрыторыі нашай краіны. Выдатна выглядалі на фестывалі палякі, карэйцы, рускія, украінцы, татары, яўрэі і многія-многія іншыя нацыянальныя аб'яднанні.

**Тацццяна КУВАРЫНА.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**


*На яўрэйскім падворку.*

СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ

## ШПАРНІКІ

Сержыку было шэсць гадкоў. З чатырох ён добра чытаў. Чытаць вывучыўся сам. Мы адно яму літары паказалі. Неяк ён усім нам абвясціў, што, як вырасце, будзе беларускім прэзідэнтам і кожнаму беларусу дасць не менш як па дзесяць мільёнаў.

Аднойчы я пацікавіўся, а адкуль ён будзе браць грошы, каб кожнаму па дзесяць мільёнаў даць. На гэта Сержык адказаў мне так:

— Я яшчэ не ведаю. Але буду расці і думаць.

Ну што ж, адказ для чалавека яго веку годны. Мне тады падумалася: пагаварылі, пагулялі трохі "ў прэзідэнта" дый і забыліся. Аж не. Па нейкім часе Сержык і кажа:

—Дзядулька! А я прыдумаў, адкуль буду браць грошы... Трэба, каб людзі працавалі хутка-хутка, шпарка, шпарка... Раз-раз, усё зрабілі, парабілі, грошы зарабілі... І я іх буду называць шпарнікамі...

Ці трэба казаць, што сама Сержыкава гаворка пра прэзідэнцтва мяне цешыць. А тут ён шчэ і слова новае прыдумаў "шпарнікі". За адно ўжо гэта ён, шасцігадовы, упісаў сваё імя ў нашу гісторыю. А хлопчыку ж яшчэ расці і расці...

Памажы яму, Божа!

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

КРЫЖАВАНКА

*ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ*

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Созидание. 5. Накал. 7. Настурция. 9. Бумазея. 11. Бумага. 12. Шутка. 13. Любовь. 14. Зрение. 15. Знание. 16. Занавеска. 18. Надежда. 21. Лень. 25. Новость. 27. Скатерть. 29. Стоимость. 33. Поместье. 35. Ропот. 36. Прощание. 37. Ветвь.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 2. Кролик. 3. Беседка. 4. Сундук. 5. Главенство. 6. Ноябрь. 8. Отдых. 10. Пахарь. 11. Петух. 14. Кукушка. 16. Высокомерие. 17. Родина. 19. Рассвет. 20. Клевер. 22. Карман. 23. Стыд. 24. Тракт. 26. Возмущение. 28. Ворота. 30. Жара. 31. Мечта. 32. Мать. 34. Угол.**



**Склала Л. ЮНАВА.**

ГУМАР

*Шум, які даносіцца з суседняга класа, перашкаджае настаўніку весці ўрок. Ён заходзіць туды, хапае за вуха галоўнага крыкуна і вядзе ў свой клас. Праз некаторы час раздаецца стук у дзверы. Уваходзіць вучань з суседняга класа і гаворыць:*

*— Сіньёр выкладчык, вы б не маглі вярнуць нам нашага настаўніка?*

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 20

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** **5. Фактар. 6. Дыктар. 9. Нахіл. 11. Рымар. 12. Лакаматыў. 15. Крышан. 18. Камора. 19. Барабан. 20. Снягір. 21. Калона. 24. Бялізна. 26. Партыя. 27. Мадэль. 31. Галактыка. 33. Яшчур. 34. Вапна. 35. Алегра. 36. Картуз.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** **1. Факір. 2. Фармат. 3. Дыкцыя. 4. Рацыя. 7. Натура. 8. Рапіра. 10. Аматар. 13. Махінацыя. 14. Заканурак. 16. Капіляр. 17. Баразна. 22. Фіяска. 23. Пароша. 25. Альянс. 28. Сатыра. 29. Акурак. 30. Цуглі. 32. Валун.**

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Тацццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Тацццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1609.
Падпісана да друку 26.6.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).